

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№210 (723) 26 кастрычніка 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.


# Бензина в Беларуси как не было, так и нет. Виновных в этом безобразии — тоже! Возможно, найдут "стрелочника"...





Гэтыя здымкі зроблены ўчора на аўтазаправачных станцыях у Навінках паблізу Мінска і ў мікраёне Уручча. З цяжкім сэрцам накіроўваюцца на запраўку вадзіцелі: перш чым возьмеш у рукі залівачны шланг, мусіш адстаяць даўжэзную чаргу, змарнаваць час, папсаваць сабе нервы. Заліўшы ў бак сваю небагатую норму, не верыцца, што пашанцуе і наступным разам. А на абяцаннях з высокіх кабінетаў вырашыць канчаткова паліўную праблему далёка ж не паедзеш...

**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

## ФАКС

### Четыре часа на переговоры

**Госсекретарь США Уоррен Кристофер прилетит в Минск из Киева в 9.30. утра 26 октября, а улетит в Ригу в 15.30.**

По словам главы белорусского МИДа П.Кравченко, со своим американским коллегой он обсудит развитие двусторонних отношений, вопросы ядерной безопасности и избрание Беларуси непостоянным членом Совета Безопасности ООН.

Кстати, в ближайшие дни в Нью-Йорке откроется генеральное консульство Республики Беларусь.

**Юрий ВИКТОРОВИЧ.**

### Опять ураган. Только снежный

**Не успев оправиться от августовского урагана, Витебская область в минувшие выходные снова была атакована стихией.**

Первый снег, выпавший на редкость обильно, да еще при безветрии и почти нулевой температуре, повредил сотни участков электролиний, как местных, так и магистральных. Деревья на лесных просеках, падая под тяжестью мокрого снега, рвали провода толщиной в канат. Только железобетонных опор обрушено около 500. Надолго была прекращена подача тока в город и поселки Браславского, Верхнедвинского, Миорского, Россонского и Полоцкого районов. А некоторые сельские сети до сих пор восстанавливаются упорнейшим трудом монтеров и энергостроителей.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Сезон закончен. Подобьем бабки?

Состоялись матчи 15-го тура Национального чемпионата Беларуси по футболу. Вот их результаты: "Динамо" (Мн) — "Неман" — 4:1, КИМ — "Динамо-93" — 1:0, "Локомотив" — "Торпедо" (Мг) — 1:1, "Шинник" — "Гомсельмаш" — 2:1, "Шахтер" — "Торпедо" (Мн) — 0:1, "Молодечно" — "Динамо" (Бр) — 0:2, "Строитель" — "Фандок" — 1:3, "Ведрич" — "Днепр" — 0:2.

Положение команд после 15-го тура

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Динамо (Мн) | 15 | 13 | 1 | 1 | 39-13 | 27 |
| Динамо-93 | 15 | 11 | 3 | 1 | 28-5 | 25 |
| КИМ | 15 | 10 | 3 | 2 | 19-7 | 23 |
| Днепр | 15 | 8 | 4 | 3 | 25-7 | 20 |
| Молодечно | 15 | 7 | 3 | 5 | 20-15 | 17 |
| Динамо (Бр) | 15 | 5 | 6 | 4 | 12-12 | 16 |
| Торпедо (Мн) | 15 | 5 | 6 | 4 | 10-11 | 16 |
| Фандок | 15 | 6 | 3 | 6 | 13-13 | 15 |
| Шинник | 15 | 5 | 1 | 9 | 15-22 | 11 |
| Гомсельмаш | 15 | 5 | 1 | 9 | 21-23 | 11 |
| Шахтер | 15 | 3 | 5 | 7 | 13-18 | 11 |
| Торпедо (Мг) | 15 | 3 | 5 | 7 | 9-18 | 11 |
| Ведрич | 15 | 3 | 4 | 8 | 9-19 | 10 |
| Неман | 15 | 3 | 4 | 8 | 13-25 | 10 |
| Локомотив | 15 | 2 | 5 | 8 | 9-25 | 9 |
| Строитель | 15 | 3 | 2 | 10 | 9-31 | 8 |

### Вктарце

**Республика Беларусь заинтересована в том, чтобы принимать участие в международной сельскохозяйственной выставке "Зеленая неделя" и международной туристической бирже, проводимых в Берлине.**

Это подтвердил заместитель Председателя Совета Министров Беларуси Михаил Демчук после своей беседы с правящим бургомистром Берлина Эберхардом Дипгеном.

❑

**Эдуард Шеварднадзе подписал указ о присоединении Грузии к Содружеству Независимых Государств.**

Министерство иностранных дел Грузии одновременно с принятием этого указа направило ноту внешнеполитическому ведомству Республики Беларусь, в которой просит ее правительство как депозитария устава Содружества Независимых Государств информировать другие страны — участницы СНГ о настоящем решении.

❑

**Госдепартамент США выразил озабоченность решением парламента Украины отменить принятое им ранее решение о закрытии Чернобыльской АЭС.**

"Мы испытываем серьезную озабоченность безопасностью атомных реакторов в Чернобыле и продолжаем считать, что реакторы этого типа должны быть закрыты как можно скорее", — говорится в распространенном заявлении госдепартамента.

❑

**На Камчатке активизировалось извержение вулкана Безымянный, сопровождающееся взрывными выбросами лавы.**

Пепел достиг 12-километровой отметки над уровнем моря. По предварительным оценкам, это самое сильное извержение за всю историю вулкана с 1956 года.

❑

**Министр иностранных дел Российской Федерации Андрей Козырев отбыл в Ирландию.**

Это первый в 20-летней истории отношений между двумя странами официальный визит главы российской дипломатии в Ирландию.

❑

**Внеочередной съезд Федерации независимых профсоюзов России 28 октября, очевидно, примет документы о реформировании этой организации.**

Делегатам съезда будет предложена на рассмотрение, в частности, декларация о реформировании ФНПР во Всероссийскую конфедерацию труда или Всероссийское объединение профсоюзов.

❑

**27 октября в Молдове начинается предвыборная кампания по выборам нового парламента республики.**

7 ноября начнется выдвижение кандидатов. Выборы пройдут по многопартийной системе 27 февраля. Будет избран 101 депутат.

❑

**Премьер-министр Франции Эдуард Балладюр посетит Россию с официальным визитом 1—2 ноября и проведет переговоры с президентом Борисом Ельциным и премьер-министром Виктором Черномырдиным.**

### И оппозиция берет. Ответственность

**Два дня в Гомеле находились представители оппозиции БНФ в Верховном Совете народные депутаты З.Позняк, Л.Борщевский, В.Заблоцкий и В.Голубев.**

Во время встреч в клубе объединения "Гомельдрев" и бывшем Доме политпросвещения депутаты заявили, что выход из кризиса видят в создании коалиционного правительства, в досрочных выборах. Если экономическая и социальная программа возрождения республики будет поддержана населением, то, как было отмечено, оппозиция готова взять на себя ответственность за судьбу Беларуси.

Клуб объединения "Гомельдрев" с шумом оставили десятка полтора пожилых людей, Дом политпросвещения — более полусотни.

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Погода и здоровье

**Медицинский прогноз погоды на 26 октября.**

Погода в Минске и области существенно не изменится. Содержание кислорода в воздухе ожидается в пределах средних многолетних данных. В такие погодные условия возможно ухудшение самочувствия метеозависимых больных с сердечно-сосудистой патологией.

В целях профилактики рекомендуется ограничение физической нагрузки, соблюдение диеты, употребление растительной пищи, прием успокаивающих средств (настойка пиона, пустырника, валерьяны) и регулярный прием препаратов, назначенных врачом.

**Антонина КАРОЗА,**
**научный сотрудник БелНИИ кардиологии.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Анонс!*

## Да візіту дзяржсакратара ЗША

Дзяржаўны сакратар Злучаных Штатаў Амерыкі Уорэн Майнар Крыстафер нарадзіўся 27 кастрычніка 1925 года. У 1945 годзе атрымаў ступень бакалаўра навук ва універсітэце Паўднёвай Каліфорніі і праз чатыры гады абараніў вучоную ступень у галіне юрыспрудэнцыі ў Станфардскім універсітэце, пасля чаго працаваў у апараце Уільяма О.Дугласа, аднаго з членаў Вярхоўнага суда ЗША.

У 1950 годзе пачалася ўласная юрыдычная кар'ера Крыстафера ў фірме "О" мелвені энд маерз", адным з саўладальнікаў якой ён стаў у 1958 годзе. З 1961 па 1965 год У.Крыстафер займаў пасаду спецыяльнага кансультанта дзяржсакратара ЗША. У 1967 годзе прэзідэнт Джонсан назначыў У.Крыстафера на пасаду намесніка генеральнага пракурора ЗША. У 1968 годзе У.Крыстафер быў пасланы ў Чыкага, дзе праводзіў ацэнку дзеянняў мясцовых улад па фактах, якія мелі дачыненне да забойства Марціна Лютэра Кінга. З 1977 па 1981 год займаў пасаду намесніка дзяржаўнага сакратара ЗША ў адміністрацыі Картэра. У 1981 годзе вёў перагаворы з Іранам аб вызваленні 52 амерыканскіх заложнікаў. Потым ён займаў пасаду дырэктара і віцэ-старшыні савета па замежных справах, дырэктара Лос-Анджэлескага савета сусветных праблем. У адміністрацыі Біла Клінтана — дзяржаўны сакратар ЗША. Жанаты, мае чацвёра дзяцей.

**Белінфарм.**

*г.Мінск.*

*Дзякуй!*

## "Народная газета" — у лідэрах!

***Хоць падпіска на I квартал 1994 года працягваецца, сталі вядомы вынікі па стану на 15 кастрычніка. Вось лічбы, якія характарызуюць ход падпіскі на рэспубліканскія выданні:***

| | |
|---|---|
| **"Народная газета"** | **— 101309** |
| "Советская Белоруссия" | — 49482 |
| "Звязда" | — 31118 |
| "Белорусская нива" | — 21125 |
| "Рэспубліка" | — 18501 |
| "Знамя юности" | — 16335 |
| "Чырвоная змена" | — 10998 |
| "7 дней" (штотыднёвік) | — 31832. |

"Народная газета", як бачыце, у лідэрах. Дзякуй вам, шаноўныя чытачы! Калектыў рэдакцыі пастараецца апраўдаць ваш давер. Спадзяёмся, што ў будучым годзе, як і сёлета, "Народная газета" будзе самым масавым, самым папулярным выданнем у рэспубліцы.

**Ужо сёння мы працуем над мадэллю будучых нумароў.**



**будзе**

- **разам са сваім народам**
- **у гушчыні падзей як нашай краіны, так і ўсяго свету**



**лічыць**

- **найвышэйшая каштоўнасць — гэта чалавек**
- **таталітарнаму рэжыму — месца ў музеях**



**патрэбна**

- **каб у рэспубліцы была свабодная трыбуна самых розных думак, поглядаў**
- **каб людзі мірна ладзілі паміж сабой**
- **каб дабро перамагала зло**
- **каб у кожны дом, у кожную сям'ю прыйшоў дабрабыт**
- **каб Беларусь стала сапраўды незалежнай, сапраўды дэмакратычнай, сапраўды нейтральнай дзяржавай**

Не крыўдуйце на нас, паважаныя чытачы, за тое, што ў асобных нумарах вялікае месца адводзім пад рэкламу. З-за фінансавых цяжкасцей некаторыя рэспубліканскія выданні паступаюць падпісчыкам з перабоямі, а "Народная" ўсё-такі выходзіць рэгулярна, і перш-наперш дзякуючы рэкламадаўцам.

Па-другое. Рэдакцыя думае пра тое, каб у наш цяжкі час "Народная газета" была даступнай для любой сям'і. За кошт публікацый платных матэрыялаў мы значна знізілі яе падпісную цану і зрабілі адной з самых танных у рэспубліцы.

Нельга забываць і пра тое, што рэклама — гэта таксама інфармацыя. Без яе не могуць развівацца свабодны рынак, канкурэнцыя, навукова-тэхнічны прагрэс. Такім чынам, шаноўныя чытачы, рэклама працуе на вас!

Нагадваем, падпіска на "Народную газету" працягваецца да 15 лістапада. Наш індэкс — 63868. А каб аблегчыць працу тых, хто яшчэ не падпісаўся, друкуем абанементны бланк. Запоўніце, выражце і аднясіце, калі ласка, на любы падпісны пункт, у любое аддзяленне сувязі.

***Не спазніцеся!***

*Дыпламатычны кур'ер*

## Дзелавому супрацоўніцтву — наступальны характар

Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Іспаніі ў Рэспубліцы Польшча Хасэ Антоніо Лопеса Сатона па яго просьбе прыняў міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. У час гутаркі адбыўся абмен думкамі аб адносінах, што склаліся паміж Іспаніяй і Беларуссю. З беларускага боку было адзначана, што ў інтарэсах абедзвюх дзяржаў неабходна як мага хутчэй надаць імпульс развіццю дзелавога супрацоўніцтва паміж імі для таго, каб яно мела такі ж наступальны характар, які існуе сёння ў адносінах Беларусі з шэрагам іншых еўрапейскіх дзяржаў.

Пасол згадзіўся з такімі вывадамі і выказаў упэўненасць, што ў бліжэйшы час міністэрства замежных спраў Іспаніі зробіць практычныя крокі, накіраваныя на актывізацыю двухбаковых сувязей.

Удзельнікі сустрэчы абмеркавалі таксама ўзаемадзеянні паміж Беларуссю і Іспаніяй у рамках ААН.

**Белінфарм.**

*Внимание!*

## ... Чтобы не остаться без телефона

Минская городская телефонная сеть предупреждает все предприятия, учреждения государственной и негосударственной форм собственности, а также владельцев квартирных телефонов о необходимости переоформления телефонов, установленных в помещениях, сданных в аренду, а также обязательной регистрации номеров телефонов, на которых установлены телефаксы, модемы или включены электронные мини-АТС.

При обнаружении неправильного пользования телефонами последние будут сниматься.

Справки по телефонам: 52-67-64, 52-80-24.

Ф. СП-1

**АБОНЕМЕНТ** на газету **63868** (индекс издания)

Народная газета

Количество комплектов: 1

на ____ год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия, инициалы)

**ДОСТАВОЧНАЯ КАРТОЧКА**

ПВ ____ место ____ литер ____ на газету **63868** (индекс издания)

Народная газета

| Стоимость | подписки | ____ руб. ____ коп. | Количество комплектов: | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | переадресовки | ____ руб. ____ коп. | | |

на ____ год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куда ____ (почтовый индекс) ____ (адрес)

Кому ____ (фамилия инициалы)

